# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА.

№ 10 (471) | ГОД X | 7 САКАВІКА 1965 г | ЦАНА 60 гр.



## Святочная праўда

Мужчыны часта, і абавязкова пры Свяце 8 сакавіка, наракаюць, што яны, бедныя, свайго свята не маюць. Каб яшчэ больш парушыць чулае сэрца жанчыны, выдумалі някепскі гумар, які цяпер часцей паўтараюць ужо самі жанчыны: 40 мучанікаў — вось свята мужчын. Было б усё добра, каб змест сказанага толькі гумарам і застаўся. Вядома, добра пасмяяцца. Але мужчыны, дзякуючы сваёй самалюбнасці, паверылі ў гумар, як праўду, а жанчыны ў сваёй наіўнасці ўцвердзілі іх у гэтым.

Жанчыны — істоты непатрабавальныя, задаволіліся, што хоць на словах яны нібыта вышэй, бо ж маюць сваё дзяржаўнае свята, а мужчыны яго не маюць. Проста кажучы, мужчынам лёгка ўдалося абаламуціць жанчын, умела падабранымі словамі вывернуць усю праўду навыварат, здабываючы сабе пры гэтым яшчэ і воблік святога мучаніка. Мужчыны кажуць больш — кажуць, што яны далі нам свята.

Для яснасці прыпомню, што свята жанчын было ўстаноўлена самымі жанчынамі, як Дзень барацьбы за роўныя правы з мужчынамі. Тыя менш хітрыя мучанікі — мужчыны, так добрыя і невінаватыя, адвярнулі ката хвастом і зрабілі з Дня барацьбы за раўнапраўе — урачыстае Свята жонкі, калі гэта яны самі з'яўляюцца госцем, а жонка (бо ж яе свята), дае пану-мужу чыстую кашулю, добрую ежу і цешыцца, што ён не сароміцца з ёю, такі цудоўны, паказацца.

Наракаюць толькі мужчыны на сябе (тут вядома таксама памыляюцца), што дрэнны дзень выбралі на жаночае свята — дарага каштуюць кветкі, а на вёсцы і зусім іх не атрымаеш. А гэта ж так выгодна: даць кветку і справа ўладжана. І нічога рабіць не трэба, і жанчына ў сёмым небе ад шчасця.

Так, так мілыя жанчыны! Тыя бедныя, просталінійныя, няхітрыя мужчыны загналі вас у цёмны кут. Ім выгодна, што ёсць Свята жанчын, а жанчына, хоць у галаве кружыцца, церпіць, бо як жа яна будзе псаваць святочны настрой, каб выгарнуць усю праўду. Але гэта я рашыла зрабіць сваім фельетонам. Мо' таксама толькі таму, што гэта мой прафесіянальны абавязак.

У кожным выпадку гатова прыняць усе абухі на сваю галаву. Будзе мне больш сумна, калі жанчыны са сваім адвечным спакоем скажуць: гэтым яна і так нічога не зменіць — мужчына будзе мужчынам, а жанчына — жанчынай.

Я, аднак, дам вам у адказ такую яшчэ карціну. Абое прыходзяць з поля, управяцца пры гаспадарцы, муж сядае (ён змучаны ж), жонка рыхтуе вячэру. Ад полымя пліты палыхае яе твар, пакрыты кроплямі поту. Пасля вячэры муж зноў адпачывае (ён змучаны ж), а жонка робіць «бабскую» работу. Колькі яе, не мне вам гаварыць.

Гмм... Мо' гэта і нармальная з'ява, толькі з умовай, калі забудзем, што мужчына нарадзіўся таксама голы, як і жанчына, і пакуль пачаў насіць майткі, адзявалі яму толькі звычайную даўжэйшую кашульку. Вось і доказ, што падзел творым мы самі. Прырода падзелу не ведае і не прызнае яго. Яна непадзельная. Кожнае тады нарушэнне правіл прыроды з'яўляецца гвалтам, несправядлівасцю.

Буду скакаць пад неба, калі мужчыны і жанчыны згодзяцца са мной пры вось гэтым жаночым урачыстым Свяце. Калі і адны, і другія выкарыстаюць магчымасці зраўнання ў прывілеях і абавязках.

Ездзячы па вёсках, заўсёды цікаўлюся, як развіваецца асвета для дарослых — вечаровыя курсы па праграме пачатковай школы. Пытаю пра жанчын на гэтых курсах. Радасна, калі спатыкаю 60-гадовых мужчын, якія вучацца тут, і сумна, нялоўка, калі на 20—15 асоб няма на курсе ніводнай жанчыны. Значыць, з тым раўнапраўем не так ружова, як гаворыцца нам з усіх бакоў пры свяце. Не зусім добры гэта метад, — толькі ўсыпляе.

(Працяг на стар. 4)



## НІНА ЦЫВАНЮК І ІНШЫЯ

12-цігадовая Ніна заўсёды намагалася, каб доўга не заснуць. Яе вельмі цікавіла размова бацькі і маці з начнымі людзьмі, якія гаварылі на рускай мове і з ёю ласкава жартавалі.

У гэтую ноч Ніна першая пачула стук у дзверы, а пасля ў акно. Яна абудзіла сваю маму.

— Гаспадар у хаце? — запыталі прыбыўшыя.

— У хаце, у хаце, калі ласка, заходзьце.

— Мы накіраваны ад Ёзіка Сяржана. Па зброю прыйшлі да вас, хочам забраць яе.

Маці Ніны ўзрадавана пачала распытваць аб Ёзіку, брату мужа, пачала гаварыць так, як заўсёды гаварыла з начнымі гасцьмі. А бацька маўчаў і толькі грозна, занепакоена глядзеў на яе.

— Ніякай зброі я не маю. Аб Ёзіку я нічога не ведаю. А ноччу, згодна з законам, нельга нікому хадзіць, — сказаў Іван Сяржан. У гэты час здагадалася і маці ў чым справа.

Начныя госці замест ласкавай размовы пачалі біць бацьку прыкладамі. Запомнілася да смерці і другое здарэнне. Ноччу немцы проста з пасцелі, раздзетых, забралі іх сям'ю (і не толькі іх) і пагналі ў Пяньскі. Усе яны думалі, што гэта апошнія хвіліны іх жыцця, што гоняць іх на расстрэл. У гэтую ноч немцы многіх расстралялі.

2.

Скончылася нямецкая акупацыя. Бацька Ніны, Іван Сяржан, з'яўляецца адным з першых арганізатараў народнай улады ў Гарадку, а яго родны брат — Ёзік Сяржан, узначальвае тэкстыльнае прадпрыемства ў Міхалове. Праз нейкі час дырэктара фабрыкі — Ёзіка Сяржана забілі бандыты. Яго імем завецца цяпер тэкстыльнае прадпрыемства ў Беластоку.

Ніна Сяржан дарастала. Рвалася да арганізацыйнай працы, жадала дзейнічаць, рабіць нешта карыснага для грамадства.

(Працяг на стар. 4)



# ▸ВЫСТАЎКА◂ БРАНІСЛАВЫ МЫТНІК



На здымку: Браніслава Мытнік пры працы.

У салоне Саюза беластоцкіх мастакоў пры Рынку Касцюшкі ў Беластоку адкрыта выстаўка малярства і графікі Браніславы Мытнік. Гэта першая выстаўка карцін мастака. Сама Браніслава Мытнік — абсальвент Кракаўскай Акадэміі мастацтваў, спецыяліст мастацкага ткацтва. Маляваць пачала нядаўна. Карціны вартыя ўвагі. Асабліва падабалася графіка.

(вл)

# • СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА БЕЗ ТАЯМНІЦ •

## КОРМ ДЛЯ РАСЛІН

Многія лічаць, што есці хочуць толькі людзі і жывёлы. Расліны ж проста растуць. Аднак усё, што жыве, вымушана харчавацца такім ці іншым спосабам. Для жывёлы кормам з'яўляюцца зялёнкі, прапашныя, збожжа. Для раслін — мінеральныя рэчывы — азот, калій, фосфар, сера...

Крыніцай мінеральных рэчываў з'яўляецца гной. У нашым ваяводстве збіраецца ў год каля 6,3 млн. тон. На кожны гектар сельскагаспадарчых угоддзяў прыпадае ў гноі каля 53 кг асноўных рэчываў — азоту, фосфару і калію. Гэта ў два разы больш, чым даем мінеральнага ўгнаення. Як бачым, гной застаецца і далей найважнейшым угнаеннем. Нядаўнія доследы, праведзеныя на Беластоцкай хімічна - сельскагаспадарчай станцыі, паказалі, што большасць гаспадарак мае гной з вялікім утрыманнем мінеральных рэчываў. Жывёльны гной у сярэднім мае ў сабе 0.48% азоту, 0.72% калію і 0,18% фосфару. Значыць, у гноі шмат азоту і калію і параўнаўча мала фосфару. Таму вельмі добра папаўняць гной такімі ўгнаеннямі, як супорфасфат або супертамашлак.

Гной вывозім на поле пераважна восенню. Даем яго пад галоўныя прапашныя расліны (напр. цукровыя буракі). Веснавую порцыю гною прызначаем пад бульбу, кармавыя буракі, конскі зуб, бручку, капусту. Нормы залежаць ад таго, што расло на гэтым полі ў мінулым годзе, ад якасці гною ад якасці глебы і канкрэтнай расліны. Звычайна даем поўную норму (250—300 ц на гектар) або палавіну нормы (150 ц на га).

Вынік угнойвання можа залежыць ад розных прычын. Найчасцейшай памылкай бывае няправільны вываз на поле, раскідванне і заворванне гною. Вывозіць гной на поле трэба ў халодны бязветраны дзень. Хутка растрэсці яго па полю і заараць. Вопыт паказаў, што гной, завораны на другі дзень, траціць 30% азоту. Калі паляжыць некалькі дзён, страты будуць яшчэ большыя. Здараюцца выпадкі, што раскіданы гной ляжыць на полі цэлы тыдзень. З такога гною не будзе ўжо ніякай карысці — гэта ўжо не гной, а жменькі перагніўшай саломы, якая не толькі не ўгноіць глебу, але можа спрыяць абніжэнню ўраджайнасці.

Падлічана, што страты, вынікаючыя з дрэннага гаспадаравання гноем, складаюць у нашым ваяводстве каля 20%. На гэта месца трэба купіць сотні тон салетры, азатняку, сульфату амонія і іншых дарагіх угнаенняў, якіх усё яшчэ мала прадукуе наша прамысловасць. Таму трэба як найхутчэй выправіць такую недарэчную памылку, як заворванне гною на другі або на трэці дзень. Гной трэба заараць адразу, як толькі яго растрэслі.

Каб зменшыць недахоп гною, трэба больш зацікавіцца магчымасцю закладання кампостаў, выкарыстоўвання гнойнай жыжкі і зялёных угнаенняў.

Інж. М. СУХАЖЭБРСКІ

## Палеміка

# А ВЕСЦІ СПРЭЧАК УСЁ Ж НЕ ЎМЕЕМ!

**У псіхіцы чалавека ёсць нейкае страшыдла, якое не дазваляе чалавеку паказаць яго твару, слабасці.**

**Як чалавек спаткае на дарозе ворага (не абавязкова ворагам мае быць бандыт са зброяй у руках, ці звер з вострымі клыкамі, можа гэта быць праблема не пад сілу) не ўцякае проста, а абыходзіць далёка навокал, прыкідваючыся, што адным махам шмат спраў хоча наладзіць.**

**Вышэй сказанае вельмі ж падыходзіць да дыскусіі над праблемай адзіноцтва.**

**Ул. Паўлючук паставіў праблему «адзіноцтва». Сам, першы, выстраляўся сваімі рацыямі ў гэтую праблему. Паўлючук праблемы не «зліквідаваў». Паўлючук са сваімі аргументамі аказаліся слабейшымі ад праблемы «адзіноцтва». Праблема стаіць. А дыскутанты заняліся Паўлючуком і яго стрэламі! Ніхто не заняўся праблемай «адзіноцтва»?!**

**А мо' гэтыя стрэлы былі правакацыйнымі? Каб раз'юшыць дыскутантаў? Так ці інакш пачын Паўлючука зварухнуў асяроддзе і зусім не разумею, што ў артыкуле Паўлючука не дазваляе Чыквіну высвятліць сваімі аргументамі праблему адзіноцтва? Тым больш, што выказванні Паўлючука вельмі ж яўныя і дыскусійныя.**

**Ці мы ўмеем адчытваць тэксты? Ці мы, чытаючы чужы тэкст, робім намаганне, каб вылавіць намер аўтара, ці ўся наша ўвага скіравана на пошукі, хіба, якойсьці фармальнасці?**

**Істотаю артыкула Паўлючука была праблема «адзіноцтва», а не постаць Дамяна. Паўлючук паслужыўся Дамянам як ілюстрацыяй. Іншая справа, ці Паўлючук выбраў трапна ілюстрацыю ці не, але ж гэта не змяняе мэрытум справы.**

**Неабходна акрэсліць свой пункт гледжання «ці сёння існуюць умовы, у якіх родзіцца адзіноцтва, ці не»? Ці мы спатыкаем адзіноцтва? Калі так, дык ідзем у жыццё і шукайма прычын «адзіноцтва», і перад тым, пакуль аплюем Дамяна да апошняй ніткі, сыйдзем з пастамента свае шчаслівасці, каб паслухаць самага Дамяна, ён сам выкажа свае аргументы, якія давялі яго да «адзіноцтва».**

**Мне здаецца, добра, што «Ніва» прапануе дыскусію на грамадскія пытанні. Кожнае пытанне па-рознаму разглядаецца людзьмі, якія бачаць праблему ў іншых аспектах. Гэта, пэўна, найкарыснейшае ў разважаннях. Адных цікавіць праблема як факт, другія ткуць свае рэфлексіі на аснове фактаў, трэція цікавяцца вынікамі фактаў, іншыя заглыбляюцца ў прычыны фактаў. Мяне найбольш хвалююць якраз прычыны кожных фактаў. Прычыны з'яўляюцца тымі зярнятамі, якія падаюць у акрэсленую глебу, спрыяючую буйным усходам, або гніюць зярняты ўнутры глебы. А нават добрая рунь не заўсёды раўназначна з багатым умалотам. Бо не толькі ад глебы залежыць ураджай. Сюды прыходзіць пагода, якая мае не апошняе значэнне ў багацці ўраджаю. Глебаю тут я называю сэрца і розум Дамяна, пагодаю — культуру асяроддзя і клопат за чалавека грамадскіх арганізацый, сярод якіх Дамян жыве, зярнятамі — прычыны адзіноцтва. На гэтым, мне здаецца, трэба затрымацца.**

**Неабходна пазнаць Дамяна: — што гэта за чалавек? Тады больш ясна будзе, дзе шукаць прычыны яго адзіноцтва.**

**Паўлючук абвінаваціў Дамяна ex cathedra, не даючы яму права выказацца. Гэтым метадам паслужыліся ўсе паўлючукоўскія апаненты. З Паўлючуковага і яго апанентаў пунктаў гледжання ў Старой Вёсцы няма прычын, каб «адзіноцтва» знайшло там прыстанішча. Аднак факт здарыўся. Дамян выехаў ад «клапатлівых» людзей у «гарадскую халоднасць».**

**Прыходзіць сумненне: — ці Дамян з'яўляецца нармальным чалавекам, ці Паўлючук усебакова асвятліў сітуацыю ў Ст. Вёсцы?**

**Насоўваецца другое пытанне: — хто адчувае сябе адзінокім? — Чалавек, які «не дарос» да асяроддзя інтэлектуальна, недараўноўвае асяроддзю адукацыяй, прафесіянальнай падрыхтоўкай, з заганным характарам, чалавек слабой волі, чалавек, які не вынес ні з сям'і, ні са школы ўмення зносін з асяроддзем. Чалавек, які перарос асяроддзе адукацыяй і інтэлектуальна. Чалавек, якому характэрны тонкія адчуванні, глыбокае ўспрыйманне ўсякага роду з'яў. Чалавек, які страціў духовы кантакт з асяроддзем. Чалавек, якому ўсе планы становяцца колам, напэўна і шмат іншых прычын. Чалавек можа быць адзінокі не толькі ў горадзе, сярод незнаёмых людзей. Ён можа быць адзінокі сярод аднавяскоўцаў і іх традыцыі ўмешвання ў кожную інтымную, асабістую справу, ён можа быць адзінокі не толькі сярод абыякавасці, але і сярод сардэчнасці. Ён можа быць адзінокі ў інтымных размовах з маці, з каханаю дзяўчынаю, са шчырым сябрам. І можа не чуцца адзінокім седзячы ў турме. Залежыць, якія прычыны яго адзіноцтва.**

**Хто гэты адзінокі? Чаго ён спадзяецца ад асяроддзя? Ці рэальна ацэньвае асяроддзе? Ці патрабаванні адзінокага адносна асяроддзя вогуле рэальныя і патрэбныя, ці яны патрэбныя і рэальныя толькі Дамяну і падобным яму, ці яны не рэальныя і не патрэбныя асяроддзю, бо не маюць сэнсу ці не рэальныя і не патрэбныя таму, што асяроддзе не можа іх зразумець, або не мае магчымасцей іх урэальніць.**

**Напрыклад, мой знаёмы Дамян са Старое Вёскі здабыў высокую адукацыю, якая ўпаўнаважвае яго да выконвання складаных прафесіянальных працэсаў у вугляной прамысловасці. Дамян не бачыць магчымасцей выжыцца прафесіянальна і інтэлектуальна на гаспадарцы 2-х -3-х гектараў. Дамян пастанаўляе выехаць у вялікае прамысловае прадпрыемства. Але Дамян адзіны сын. Бацькі, зросшыя з зямлёю цэлаю істотаю існавання, не могуць уявіць, што Дамян можа пакінуць гаспадарку. Дамян хоча забраць бацькоў у горад — бацькі хочуць памерці на сваіх гектарах. Размовы тут адбываюцца шчырыя. І вось Дамян стаў перад выбарам. Што Дамян выбярэ? — Ці сваё месца ў новай грамадскасці, якое ён правільна ўяўляе, ці пакрыжуе свае планы і паддасца кепска зразумелай традыцыі. Так ці інакш Дамян ў сваёй сям'і адзінокі.**

**Там, у Старой Вёсцы я спаткаў таленавітага сына багатага бацькі. Ён у іх найстарэйшым дзіцём. Мае здольнасці ў акрэсленым напрамку. Бацька не можа апрацаваць гаспадаркі, пасля заканчэння 7-га класа пакідае сына на гаспадарцы, сын пападае ў роспач, у канфлікт з бацькам і асяроддзем, у адзіноцтва.**

**Адзіноцтва выступае на фоне светапогляду, кахання, канфліктаў пакаленняў... Ці ж трэба пералічваць усё?**

**Адзіноцтва — справа чалавечая. Выступала і будзе выступаць і мне здаецца, няслушныя раздражненні Рудчыка, што нейкі Паўлючук, член сацыялістычнага грамадства асмеліўся паставіць праблему адзіноцтва ў сацыялістычнай краіне.**

**Пакуль яшчэ ніхто не прадчуў прагнозы (на шчасце), якая зраўняе ўнутраны свет усіх людзей — дзе людзі будуць адзінакава рэагаваць на ўсялякія працэсы. А пакуль будуць аб'яўляцца арыгінальныя таленавітыя індывідуальнасці (а да гэтага ствараюцца ўсё лепшыя ўмовы), будуць паўставаць усялякага роду канфлікты. Менавіта ж канфлікты з асяроддзем спіхаюць чалавека да адзіноцтва.**

**Нельга згадзіцца з М. Гайдуком, што чалавек калінебудзь выбірае адзіноцтва! У нас шмат ёсць «Дамоў Творчай Працы», куды выязджаюць пісьменнікі і навуковыя работнікі, каб сканцэнтравацца над пытаннямі, якія іх хвалююць. Яны выязджаюць туды дзеля стварэння ўмоў спрыяючых магчыма максімальнай канцэнтрацыі над канкрэтным пытаннем, якому яны аддаюцца, а не на тое, каб паглыбіцца ў «адзіноцтве». Мне здаецца, існуе карэнная розніца між гэтымі паняццямі. У гэтых справах М. Гайдук няўдачна выказаўся. Ужо было падкрэслена некаторымі прадмоўцамі, што праблема «адзіноцтва» актуальная і што ёй прыдалося б прысвяціць не адзін абшырны фельетон. У кожным выпадку спраў людскіх саромецца, ані абурацца на іх нельга, і калі мы людзі гуманныя шукайма прычын, якія затруваюць людзям жыццё і рабем усё магчымае, каб чалавек з намі не адчуваў сябе адзінокім.**

**ЯША БУРШ**

## АБ'ЯДНАНЫЯ ЖАНЧЫНЫ

**Гурток вясковых гаспадынь у Бялявічах, які ўзначальваецца Марыяй Куліkоўскай, прымае актыўны ўдзел у жыцці сваёй вёскі, а таксама многа карыснага робіць для сваіх членаў. Мінулай зімою гурток сарганізаваў курс варэння і пячэння. Летам па яго ініцыятыве быў утвораны дзяцінец. 24 дзяцей мелі належную апеку ў той час, калі на палях ішло змаганне за ўборку збожжа. Зараз у Бялявічах паспяхова працуе курс гафтавання. 12 жанчын вывучае так патрэбную справу.**

**(М. Х.)**

У БЕЛАСТОЦКІМ ТЭАТРЫ

## Гісторыя нашых дзён

У Беластоцкім тэатры з вялікім поспехам ідзе сучасная п'еса «Пасынкі» (Pasierbowie) паводле аднайменнай повесці Ежы Путрамента. Адной і другой раім зацікавіцца нашым чытачам.

На здымку сцэна з беластоцкай пастаноўкі «Пасынкі»: Станіслаў Яшкоўскі (Ян Поцей) і Казімір Баровец (Леан Поцей).

(вл)





Гарадское жыццё мянiць. Усё больш і больш людзей у краінах паўднёвай і паўднёва-ўсходняй Азіі пакідае вёскі і перасяляецца ў гарады. Жанчынам тут лягчэй вызваліцца ад векавых пут, накінутых ёй традыцыяй і рэлігіяй, дабіцца адукацыі і заняцца прафесіямі, доступ да якіх раней быў немагчымы. (а-ся)

У Канадзе пражывае звыш 200 тысяч індзейцаў, размешчаных у спецыяльных рэзервуарах — гетах, пазбаўленых асветы і культуры. Сярод жменькі адукаваных індзейцаў, якім пашчаслівілася дастацца ў гарады, разгортваецца барацьба за раўнапраўнасць сваіх землякоў. Адным з найбольш папулярных і актыўных дзеячоў у гэтай барацьбе з'яўляецца 22-гадовая Кан-Тынета Горн, што ў перакладзе на беларускую мову абазначае «Зялёны Луг».

— Мужчыны ахвотна слухаюць мяне, — жартуе Тынета, — бо любяць на мяне паглядзець.

І не дзіўна! (а-ся)

# СЛАБАСЦЬ МУЖЧЫНСКАГА РОДУ

Найбольш распаўсюджанай, а адначасова найбольш няправільнай, з'яўляецца думка, быццам бы жанчыны былі слабейшай палавінай чалавечага роду. Знайшло гэта адбіццё, між іншым, у паэзіі і літаратуры, дзе жанчына называецца «крохкай істотай», «марным пухам» і г.д. Пярэчаць гэтаму ўсялякія навуковыя даследы. У сапраўднасці справа выглядае якраз наадварот. Жывотнасць мужчынскіх адзінак — так сярод людзей як і сярод звяроў — значна меншая ад адзінак жаночага роду.

Ва ўсім свеце знаходзіцца больш удоў, чымсьці ўдаўцоў, усюды мужчыны раней уміраюць, усюды паказваюць меншую адпорнасць на рознага роду хваробы.

Некаторыя вучоныя гэты факт прабавалі выясніць стылем жыцця мужчын, іх шкоднымі для здароўя звычкамі, запрацаваннем, злоўжываннем алкаголю і нікатыны, недастатковай колькасцю сну, нерэгулярным харчаваннем і г.д.

Тлумачэнні гэтыя аказаліся няправільнымі. Доследы праведзеныя ў розных краінах свету паказваюць, што «слабасць» мужчын звязана са «слабасцю» мужчынскага роду наогул. Сцверджана, што адзінкі мужчынскага роду слабейшыя не толькі сярод людзей, але ва ўсім звярыным свеце, пачаўшы ад рабакоў, праз ракаў, насякомых, павукоў, птушак, гадаў, рыб і да вялікіх млекакормячых звяроў. Нельга сказаць, каб, скажам, наш сімпатычны кот быў больш запрацаваны ад кошкі, прытым, не курыць ён папяросаў, не п'е гарэлкі, аднак доследы паказваюць, што кот наогул хутчэй захворвае на кацячыя хваробы і жыве ў сярэднім карацей ад кошкі.

Яшчэ ў лоне маці, дзе ўмовы развіцця плода аднолькавыя, на кожных 100 выпадкаў памёршых пладоў жаночага роду прыпадае ў некаторых месяцах цяжарнасці аж 375 пладоў мужчынскага роду. Статыстыкі розных краін згодна паказваюць, што ў першых гадах жыцця дзяцей, калі хлопчыкі і дзяўчынкі ў аднолькавы спосаб кормяцца і ў аднолькавы спосаб забяспечаны ад розных знешніх пагроз, смяротнасць сярод хлопцаў на адну чацвёртую большая ад смяротнасці дзяўчынак. І гэтая перавага ўтрымліваецца праз усё жыццё да позняй старасці, якая ў жанчын заўсёды пазнейшая чымсьці ў мужчын.

## Найтаўсцейшая жанчына свету

Найтаўсцейшай жанчынай свету з'яўляецца жыхарка Бразіліі, 32-гадовая краўчыха Інакенція Каляціна дэ Ліра. Да 17-га года жыцця была яна шчуплай дзяўчынай. Пасля некалькіх дзіўных этаках да страты прытомнасці, адчувала велізарны голад і пачала так многа есці, што дастаўкай прадуктаў харчавання заняліся дабрачынныя таварыствы. Тады пачала вельмі хутка таўсцець.

Жанчына гэта важыць 220 кілаграмаў пры ўзросце 163 см, у таліі мае 178 см. Можа стаяць пры ўласных сілах толькі 15 мінут, а найбольш сядзіць, або ляжыць на спецыяльна зробленых мэблях.

На жаль, лекары тут бяссільныя. (на)



Алжырская Народна-Дэмакратычная Рэспубліка пачынае трэці год незалежнага быту. У барацьбе супроць французскіх каланізатараў загінула каля аднаго мільёна алжырцаў. Тысячамі сірот апякуецца дзяржава.

Сіроты — гэта найбольш глыбокая рана кожнай вайны. (а-ся)



## НА ВАДУ

У Эфіёпіі, горнай краіне ў Афрыцы, вада з'яўляецца каштоўным здабыткам. На здымку бачым эфіёпскіх жанчын, якія нясуць да вёскі ваду. (а-ся)



Жанчыны ўсюды адзінакавыя. Вось маладыя арабкі з цікавасцю прыпыняюцца ля вітрыны магазіна аздобных вырабаў. Памалу мода пранікае і ў Аравію. Традыцыйнае адзенне ўступіць месца еўрапейскаму, бо ж інакш не будзе відаць залатога бранзалета ці цудоўнага ашыйніка... (ся)




Уся плошча перад портам была забіта вайскамі. Зразумела, адзін выгляд гэтай карціны не мог не радаваць Дзяменцява. Ён падумаў, што пры такім зборы войск наўрад ці гітлераўцы змаглі захаваць строгі рэжым прахода на аператыўны прычал, і вырашыў прасачыцца туды. Але яго чакала расчараванне. Чым бліжэй ён набліжаўся да аператыўнага прычала, тым больш адчуваў, што з кожным крокам бурхлівы натоўп усё больш прыкметна падпарадкоўваўся нейкаму пакуль яшчэ незразумеламу Дзяменцяву парадку. Але неўзабаве ён зразумеў: славутая нямецкая арганізаванасць знайшла спосаб навесці парадак і тут. З набліжэннем да аператыўнага прычала ўсе салдаты і афіцэры самі разбіваліся на групы па дванаццаць асоб. Трынаццаты — старшы ў групе. Групы падбіраліся са знаёмых аднапалчан. Калі сваіх у групе не хапала, яе папаўнялі чужымі, але яны павінны былі таксама ведаць адзін другога. Фарміраванне груп адбывалася быстра, на хаду, і да кантрольнага пункта аператыўнага прычала салдаты падыходзілі ўжо арганізавана. Першая думка ў Дзяменцява — прымазацца да адной з груп. Не, гэта было небяспечна. Апрача таго, магла ўзнікнуць пагроза, што ён не выбярэцца потым з порта — дык яго могуць пагрузіць на параход, ці прымусіць чакаць у страі. Дзяменцяў пайшоў назад Пайшоў у аддзел...

41

У памяшканні было ціха. Пахла паленай паперай. У кабінеце Мельха ўся падлога была ўсыпана чорным попелам. Пустыя шуфляды яго пісьмовага стала валяліся ля печкі. Дзяменцяў прайшоў у іншыя пакоі. Усюды тая ж карціна. І толькі ў пакоі тэхнічнага сакратара аддзела на сваім месцы сядзеў за пішучай машынкай фельдфебель Шырар. Ён сустрэў Дзяменцява радасным крыкам:

— Добры дзень, капітан Рукерт!

— Добры дзень... — стрымана адказаў Дзяменцяў. Ён вырашыў разыграць перад фельдфебелям паінфармаванага ва ўсім чалавека, які застаўся тут не прыпадкова. — У якім стане вашы справы?

— Па загаду Мельха я знішчыў усю дакументацыю. Вельмі добра, што вы прыйшлі! Рыхард Брандт загадаў, калі вы прыдзеце, затрымаць вас да яго прыхода.

— Я з ім ужо бачыўся ў порце... — спакойна сказаў Дзяменцяў. — Скажыце, чыстыя бланкі ў вас засталіся?

— Сто штук.

— Прынясіце іх у кабінет Мельха і прыдзіце туды з машынкай. Хутчэй!

— Адзін момант!..

Дзяменцяў сядзеў у крэсле Мельха і дыктаваў Шырару тэкст распараджэння:

— «Пункт першы. У сувязі з заканчэннем работ аддзел па арганізацыі цывільнага тыла ліквідуецца. Пункт другі. Фельдфебелю Шырару здаць мне чыстыя бланкі і пішучу машынку. Пункт трэці. Фельдфебель Шырар адкамандзіроўваецца ў распараджэнне камендатуры горада...»

42

Дзяменцяў загадаў фельдфебелю трэці пункт скапіраваць на асобным бланку: гэту выпіску фельдфебелю трэба будзе паказаць у камендатуры. Увесь гэты час адна думка, як пульс, білася ў галаве Дзяменцява: зараз можа ўвайсці Брандт... Засцерагальнік на пісталеце спушчаны. Спачатку — Брандта, затым — фельдфебеля...

Закончыўшы пісаць загад, Шырар устаў і выцягнуўся перад Дзяменцявым:

— Мельх ноччу сказаў мне, што сёння я буду эвакуіраваны разам з другой групай афіцэраў аддзела.

Дзяменцяў уздыхнуў:

— З другой групай, Шырар, нічога не выйшла. Трымацца за мяне я вам не раю. Я ад'еду адсюль апошні. Калі наогул ад'еду. Не хвалюйцеся, ідзіце ў камендатуру. Вы будзеце эвакуіраваны на агульных асновах. Тут не застанецца ні адзін салдат рэйха — такі загад фюрэра.

Шырар пайшоў. Дзяменцяў палажыў у кішэню чыстыя бланкі, улажыў пішучу машынку ў футляр, узяў яе і выйшаў на вуліцу.

Дзяменцяў ішоў на кватэру. Небяспека чакаючай яго там засады заставалася. Брандт — у горадзе. Не ісці ён не мог. Для выканання задуманага ім плана яму патрэбнае было прыстанішча хоць бы на гадзіну. Але спачатку трэба за чамаданам у атэль...

43

